№10 (173)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Ліпень 2014 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**Беларусі зноў не даюць шосты транш крэдыту ЕўрАзЭС.**

Пытанне пра выдачу Беларусі шостага траншу крэдыту ў памеры 440 млн долараў Савет Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС разгледзіць толькі пад канец года.

Пра гэта паведамляе агенцтва БелаПАН са спасылкай на дырэктара праектнай групы па фінансавых крэдытах праектнага блока АКФ Алішэра Мірзоева.

Паводле яго слоў, на пачатку ліпеня Савет АКФ прыняў рашэнне перанесці кантрольную дату шостага траншу з 1 ліпеня на 1 кастрычніка.

Паводле інфармацыі БелаПАН, перанос кантрольнай даты шостага траншу абумоўлены тым, што ва ўстаноўленыя тэрміны былі ўзгоднены не ўсе параметры яго вылучэння.

### У Прыдняпроўі

**Численность населения Могилевской области уменьшается.**

Численность населения Могилевской области на 1 июля 2014 г. по предварительным данным составила 1070,8 тыс. человек и по сравнению с началом текущего года сократилась на 1,8 тыс. человек.

По данным госстатуправления Могилевской области в I полугодии 2014 г. родилось 6487 детей, умерло 7555 человек. Естественная убыль населения составила 1068 человек.

### У раёне

**Снаряды времён минувшей войны находят в Белыничах.**

22 июля в г.п. Белыничи на приусадебном участке дома по ул. Якубовского при проведении земляных работ обнаружен 107-мм артснаряд времен ВОВ, который был обезврежен саперно-пиротехнической группой в/ч 6713.

**Средняя заработная плата** по народному хозяйству Белыничского района в мае 2014 года сложилась на уровне Br5180,4 тысяч, сообщают белыничские статистики. Поверим?

# КАРОТКАЕ ШЧАСЦЕ ПЕНСІЯНЕРАЎ

***24 ліпеня шчаслівыя бялыніцкія пенсіянеры з імпэтам абмяркоўвалі навіну аб хуткім падвышэнні пенсій.***




Родныя беларускія ўлады паведамілі, што ў Беларусі з 1 жніўня сума працоўных пенсій будзе павялічаны ў сярэднім на 7,3%.

Адпаведная пастанова зацверджаная ўказам № 366 ад 24 ліпеня 2014 года.

«Указам прадугледжваецца зрабіць 1 жніўня 2014 г. карэкціроўку фактычнага заработку пенсіянераў і пераразлік працоўных пенсій», - гаворыцца ў паведамленні прэс-службы кіраўніка.

Вельмі абрадавалася хуткаму падвышэнню пенсій і мая добрая знаёмая пенсіянерка Леанідаўна, якая з нецярпеннем чакала яго ўжо некалькі месяцаў. Праўда, пасля таго, як яна падлічыла, на колькі ж у яе ўзрасце памер пенсіі з жніўня месяца, і на колькі падаражэлі тавары і палугі з моманту папярэдняга падвышэння, радасць яе пакрысе з’ехала на нішто.

Высветлілася, што якраз радавацца асабліва і няма чаму – пенсіі падвышаюцца на 7,3%, а інфляцыя з пачатку года ўжо склала 10,2%. І гэта не гледзячы на тое, што любімы беларускі ўрад планаваў рост коштаў на 11% на ўвесь 2014 год.

Толькі за апошнія месяцы кошты на мяса падняліся на больш чым на 30%, каўбаса падаражэла на 15%, медыцынскія паслугі – на 19,%. А калі з гора ад такога падвышэння захочаш выпіць і запаліць, то гэта таксама па кішэні стукне вельмі адчувальна – з пачатку года на 15 і 20% адпаведна падаражэлі спіртовыя напоі і тытунёвыя вырабы.

Але што тут пра наш урад казаць, яго прагнозы ўжо даўно нічога, акрамя смеху, не выклікаюць. Калі б нашы міністры сваім жонкам такія прагнозы рабілі наконт таго, калі з імі спаць разам будуць, тыя б даўно іх з хаты выгналі і палюбоўнікаў завялі.

Нашмат горш іншае, а менавіта тое, што незалежныя эксперты адзінадушна прагназуюць далейшы шалёны рост коштаў літаральна на ўсё ў нашай краіне ў гэтым годзе. Былы

*(Заканчэнне на стар. 2)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ЛІТАСЦЬ ПА-МІЛІЦЭЙСКУ

***Круглянскі супрацоўнік міліцыі ў чарговы раз выказала "своеасаблівае" стаўленне да былых асуджаных.***




Старэйшы інспектар крымінальна-выхаваўчай інспекцыі Круглянскага РАУС, маёр міліцыі Таццяна Падаляк у артыкуле ў раённай газеце "Сельскае жыццё" (№56 ад 23 ліпеня 2014 года) у чарговы раз выказала вельмі своеасаблівае стаўленне да былых асуджаных, якім яна абавязана дапамагаць па службоваму абавязку.

Згодна меркавання Таццяны Адольфаўны, "судзімыя асобы – гэта найбольш грамадска небяспечная катэгорыя правапарушальнікаў, для якіх характэрна псіхалогія супрацьпраўных паводзін. Ім уласцівыя адмоўныя адносіны да працы, злоўжыванні спіртовымі напоямі. Некаторыя схільны к здзяйсненю новых злачынстваў. Жадаецца, але не атрымліваецца верыць у выпраўленне паводзін такіх грамадзянаў".

Супрацоўнік міліцыі Таццяна Падаляк, які, згодна сваёй пасады, павінен якраз і займацца тым, каб аказваць дапамогу былым асуджаным у іх сацыяльнай адаптацыі да нармальнага жыцця, пошуку працы і прафілактыцы правапарушэнняў у іх асяроддзі, на жаль, адназначна запісвае ўсіх без выключэння былых асуджаных у правапарушальнікі з дрэннымі маральнымі якасцямі.

Застаецца нагадаць, што ў лютым 2012 года старэйшы інспектар крымінальна-выканаўчай інспекцыі Круглянскага РАУС, маёр міліцыі Т. Падаляк у раённай газеце "Сельскае жыццё" выказалася за тое, каб усе правапарушальнікі, якія адбываюць пакаранне, былі пазбаўлены ўсялякіх шансаў на датэрміновая вызваленне.

Пазней у студзені 2013 года Таццяна Адольфаўна зноў выказала сваё стаўленне да былых асуджаных: "Галоўнае, на мой погляд, гэта пастаянны кантроль. Бо тыя, хто вярнуўся з месцаў не гэтак аддаленых, мала прыстасаваныя да жыцця ў грамадстве. Як правіла, гэтыя людзі ўтойлівыя, хлуслівыя. Аднак мы робім усё, каб вярнуць іх у соцыўм. І гэта праца апраўдвае сябе".

Па выніках працы праваахоўчых органаў за 2011 год маёр міліцыі Таццяна Адольфаўна Падаляк была прызнаная лепшым інспектарам крымінальна-выканаўчай інспекцыі ў нашай краіне. Таксама Таццяна Адольфаўна неаднаразова ўваходзіла ў лік лепшых інспектараў крымінальна-выканаўчай інспекцыі Магілёўскай вобласці.

Застаецца нагадаць, што ўсе хрысціянскія канфесіі адназна кажуць пра тое, што кожны чалавек, які здзейсніў памылку ў жыцці, мае магчымасць пакаяцца і выправіць зробленае. Усе мы памятаем біблейскую прыпавесць пра блуднага сына…

***Ірына Беганкіна***

# КАРОТКАЕ ШЧАСЦЕ ПЕНСІЯНЕРАЎ

*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

старшыня праўлення Нацыянальнага Банка Рэспублікі Беларусь Станіслаў Багданкевіч адназначна сцвярджае, што рост інфляцыі ў Беларусі ў 2014 годзе перавысіць 20%. Кіраўнік навукова-даследчага цэнтра Мізэса Яраслаў Раманчук прагназуе гадавую інфляцыю на ўзроўні 23-25%. Ён лічыць, што кошты, безумоўна, будуць расці і найдалей, у першую чаргу на паслугі ЖКГ.

І гэты рост коштаў "з'есць" падвышэнне пенсій літаральна за два-тры месяцы.

Ад сябе хачу дадаць толькі адно – не толькі я заўважыў, што пасля таго, як нашыя любімыя беларускія ўлады аб'яўляюць пра павелічэнне пенсій для родных пенсіянераў, адразу ж у хуткім часе пачынаюць расці кошты літаральна на ўсё.

Так што будзем радавацца падвышэнню пенсій з 1 жніўня і чакаць, што ж у нас падаражэе ў першую чаргу. На маю думку, шмат часу чакаць не давядзецца…

***Іван Барысаў***

# НАШИ ЛЕСОРУБЫ - ЛУЧШИЕ

**Команда Белыничского лесхоза победила в областном конкурсе «Лесоруб-2014».**

На базе Кличевского лесхоза прошел областной конкурс профессионального мастерства «Лесоруб-2014». В соревнованиях приняли участие команды всех 13 лесхозов Могилевщины и сборная команда Министерства лесного хозяйства, выступавшая вне конкурса. Лесорубы состязались в 6 видах упражнений: валка леса, точная раскряжевка, обрезка сучьев и другие. Первое место в командном зачете заняла команда Белыничского лесхоза, на втором – быховчане, на третьем – лесорубы Кличевского лесхоза.

Проводились также индивидуальные соревнования среди лесорубов - лучшие из них представят Могилевщину на республиканском конкурсе «Лесоруб-2014», который 14-15 августа пройдет на базе Осиповичского района.

# БЕЛОРУССКИЕ МУЖЧИНЫ УМИРАЮТ НА 10 ЛЕТ РАНЬШЕ ЖЕНЩИН

В Беларуси разница в ожидаемой продолжительности жизни при рождении между мужчинами и женщинами составляет 10,6 лет, в продолжительности жизни городского и сельского населения - 5 лет.

Ожидаемая продолжительность жизни при рождении в 2013 году составила в Беларуси 72,6 года, для мужчин - 67,3 года, для женщин - 77,9.

Продолжительность жизни мужчин и женщин в городах и поселках городского типа выше, чем в сельских населенных пунктах: у мужчин - на 5,3 года, женщин - на 3,2 года.

# У БЯЛЫНІЦКІМ РАЁНЕ СТАЛІ БОЛЬШ КРАСЦІ І ЗАБІВАЦЬ

***Супрацоўнікі Бялыніцкага РАУС падвялі вынікі сваёй працы ў першым паўгоддзі 2014 года.***

Высветлілася, што на працягу першага паўгоддзя 2014 года на тэрыторыі Бялыніцкага раёна было зарэгістравана 101 злачынства, што на 9 злачынстваў меней, чым за аналагічны перыяд 2013 года.

Разам з тым супрацоўнікі міліцыі адзначаюць, што павялічылася з 60 да 67 колькасць злачынстваў, зарэгістраваных па лініі крымінальнага вышуку. Раскрывальнасць дадзенай катэгорыі злачынстваў склала толькі 79,2% супраць 80% у 2013 годзе. Знізілася таксама і агульная раскрывальнасць злачынстваў па ўсім лініям службаў - яна склала 83,2% супраць 85,9% у 2013 годзе.




Як паведамляе ў раённай газеце "Зара над Друццю" (№55 ад 23 ліпеня 2014 г.) начальнік штаба Бялыніцкага РАУС Дзмітрый Ігнатовіч, у раёне адзначаецца рост забойстваў і прычынення цяжкіх цялесных пашкоджанняў. Дзмітрый Ігнатовіч канстатуе, што таксама назіраецца нязначнае павелічэнне злачынных дзеянняў, здзейсненых у грамадскіх месцах.

Міліцэйская статыстыка кажа, што ўзрасла колькасць крадзяжоў усіх форм уласнасці з 44 да 52, раскрывальнасць крадзяжоў усіх форм уласнасці па лініі крымінальнага вышуку склала 71,7%. Доля крадзяжоў у структуры злачыннасці па лініі крымінальнага вышуку склала 77,6% (у 2013 годзе было 73,3%).

Дарэчы, шмат хто з жыхароў Бялынiччынылічаць, што на сам рэч у раёне павялічылася і агульная колькасць здзяйсняемых злачынстваў, проста супрацоўнікі мясцовай міліцыі далёка не ўсе з іх рэгіструюць, каб не псаваць агульную статыстыку. У вясковых населеных пунктах дробныя крадзяжы маёмасці ў грамадзянаў адбываюцца пастаянна, з пустуючых сядзібаў асацыяльныя элементы вывалакаюць літаральна ўсё, што магчыма рэалізаваць хоць нейкім чынам.

Таксама ўзрасла ў Бялыніцкім раёне і колькасць асобаў, прыцягнутых да адміністрацыйнай адказнасці за з'яўленне ў п'яным выглядзе і і распіццё спіртовых напояў у грамадскіх месцах, за дробнае хуліганства. Для накіравання ў ЛПП участковымі інспектарамі падрыхтаваныя матэрыялы на 23 чалавек (у 2013г. – 20), хоць усе мы добра ведаем, што ніякага "лячэння" у лячэбна-працоўных прафілакторыях хворых людзей фактычна не адбываецца. Там іх проста ізалююць ад грамадства і сям'і на пэўны тэрмін, а пасля яны павяртаюцца і зноў пачынаюць піць. Безумоўна, выключэнні бываюць, але вельмі рэдка.

Павялічыўся ў Бялыніцкім раёне ў 2014 годзе і ўзровень рэцэдыўнай злачыннасці. Па стану на 1 ліпеня супрацоўнікамі РАУС па ўсіх лініях службаў было скончана 89 крымінальных спраў (за аналагічны перыяд 2013 г. – 85), з якіх 38 злачынстваў было здзейснена раней судзімымі асобамі (у 2013 г. – 35). Удзельная вага злачынстваў, здзейсненых асобамі, якія маюць судзімасць, у агульнай структуры злачыннасці, за 2014 год складае 39,3%.

Ну што тут скажаш, прыведзеныя вышэй лічбы адназначна сведчаць пра тое, што значна недапрацоўвае ў гэтым накірунку аддзяленне аховы правапарадку і прафілактыкі Бялыніцкага РАУС, якое на працягу шэрагу гадоў узначальвае падпалкоўнік міліцыі Аляксандр Манікайла. Ды і палкоўніку Юрыю Пятровічу Сіманаву патрэбна прыкладаць больш намаганняў, каб палепшыць сітуацыю са злачыннасцю ў Бялыніцкім раёне, інакш яна будзе пагаршацца і найдалей.

***Сяргей Семяновіч***

## Воруют всё

22 июля Белыничским отделом Следственного комитета возбуждено уголовное дело по ст. 205 ч. 1 УК (Кража) по заявлению, поступившему от пенсионера, жителя г.п. Белыничи, 1950 г.р., о том, что в период с 17 по 18 июля из его сарая по улице Островского путем свободного доступа похищен велосипед. ОУР установлено, что преступление совершил пенсионер, местный житель, 1950 г.р. Похищенное изъято.

17 июля Круглянским отделом Следственного комитета возбуждено уголовное дело по ст. 214 ч. 1 УК (Угон транспортного средства) в отношении неработающего жителя г.п. Белыничи, 1989 г.р., который 17 июля с территории цеха ГЛХУ в д. Волковщина совершил угон трактора «Амкадор». Трактор в техисправном состоянии возвращен владельцу, сообщает интернет-сайт УВД Могилёвского облисполкома.

# ЛЕОНИД ЗАИКО: УБЫТОЧНЫЕ КОЛХОЗЫ НИКОМУ НЕ НУЖНЫ. НУ РАЗВЕ ЧТО ПУТИН КУПИТ ИХ И НАЗОВЕТ ИМЕНЕМ КГБ

***Лукашенко не удастся продать убыточные колхозы. Об этом в интервью сайту charter97.org заявил руководитель аналитического центра «Стратегия», кандидат экономических наук Леонид Заико.***

- На днях руководитель государства дал убыточным колхозам полгода на выход из минуса. Справятся ли они с этой задачей в поставленный срок?

- Колхозы создавались в конце 1920-х годов, а где-то и после войны. С тех пор прошло более 70 лет. Ну и что теперь? 70 лет они были убыточными, а сейчас потребуется всего полгода, чтобы они как-то резко изменились? Поэтому все это напоминает какое-то 2026-е последнее китайское предупреждение. Все равно треть колхозов и совхозов будет убыточной.

- А что такое может произойти, что позволит неэффективным сельхозпредприятием выйти на безубыточную работу?

- Произойти может только так: если у нас цены на мясо увеличатся еще в два раза, десяток яиц будет стоить 30 долларов, а килограмм картошки 5 долларов, тогда эти колхозы перестанут быть убыточными. Но население уедет из такой страны. Это может произойти, ведь уже и так ростом цен на мясо испытывается терпение населения. Свинина, которая стоит в Беларуси 140-160 тысяч, в соседней Польше стоит 40 тысяч.

- Лукашенко пообещал выставить на продажу убыточные колхозы, если они останутся таковыми. А найдется ли достаточно желающих их купить?

- Все это абсолютно несерьезно. Убыточные колхозы никому не нужны. Ну разве что Путин купит их и назовет их именем КГБ. А если серьезно, то самый простой вариант, и я его рекомендую, переселить в убыточные колхозы китайцев – и те их подымут.

- Если все так печально, то каково будущее сельского хозяйства Беларуси?

- А что мы, собственно говоря, теряем из-за того, что у нас не будет




производителей, которые делают свинину по 140 тысяч? Какая трагедия произойдет? Например, месяц назад я покупал отличные недорогие томаты из Шотландии. Так зачем корячиться и спасать сельское хозяйство, которое не спасти. Оно, кстати говоря, само выживет, но останутся лишь агроусадьбы и пригородные хозяйства, где будет свежее молоко, свежие овощи и фрукты. А колхозы нужны только для выращивания зерновых, ведь даже картофель в основам выращивается на подсобных хозяйствах.

***(По материалам charter97.org)***

## СВОЯ ЛУЧШЕ?

Более 46 тыс. литров самогона и самогонной браги изъято с начала года на Могилевщине.

Более 46 тыс. литров самогона и самогонной браги изъято с начала года на Могилевщине. Об этом сообщили в управлении внутренних дел Могилевского облисполкома. В том числе – 134 литра спирта, а также 160 самогонных аппаратов. Так, 10 июля в Белыничском районе сотрудники ОВДТ в заброшенном доме обнаружили и изъяли 200 литров браги. 100 литров браги было обнаружено у жительницы деревни Боровка Могилевского района. В одной из деревень Краснопольского района у пенсионерки было изъято 160 литров самогона. 27 июня в д. Изобище ОУР в ходе осмотра жилища неработающего, 1974 г.р., обнаружено и изъято 300 л. браги.

## МОГИЛЕВСКАЯ ИК-19 БУДЕТ ПРЕОБРАЗОВАНА В ЛТП

Исправительная колония №19 в Могилеве будет реформирована в лечебно-трудовой профилакторий.

Необходимость в мужском ЛТП в Могилевской области назрела давно. В очереди на принудительное лечение от алкоголизма – почти 800 человек. В то же время количество осуждённых, направляемых в ИК-19, снижалось. На данный момент большую часть осуждённых, отбывавших наказание в могилевской ИК-19, переведены в другие места заключения. Сейчас в колонии идет ремонт.

По словам руководства управления Департамента исполнения наказаний, реорганизация ожидает и учреждение открытого типа №53 Бобруйска.

# ЛЯВОНАЎ: ЗА ТАКІ «ЭКСПЕРЫМЕНТ» НА МЯНЕ АБЯЦАЛІ НАКІНУЦЬ КАЙДАНКІ

***“Давайце дамовімся: праз тыдзень у Магілёўскай вобласці ў якасці эксперыменту ўводзіцца свабоднае цэнаўтварэнне і доступ спажыўца малака да вытворцы”, — заявіў Лукашэнка падчас наведвання сыраробнага завода ў нашых родных Бялынічах.***

— Гэтаму “эксперыменту” хутка споўніцца 20 гадоў, — кажа Васіль Лявонаў. — Восенню 1994 года, калі я быў міністрам сельскай гаспадаркі, мы таксама адпусцілі цэны на малочную прадукцыю. Узгаднілі ўсё з Міхаілам Чыгіром (на той час – прэм’ер-міністр Беларусі), зрабілі вольным цэнаўтварэнне. Адразу палепшыўся асартымент прадукцыі.

— І чым тады скончылася ваша ініцыятыва?

— Усё нармальна было, праўда, затым на мяне паабяцалі накінуць кайданкі, хоць старшыня Менскага гарвыканкама Ярмошын падтрымаў: маўляў, нічога страшнага ў свабодным цэнаўтварэнні няма. Але пасля слоў пра “кайданкі” пачалося нешта незразумелае. Трэба ж было паказаць, што толькі адзін чалавек клапоціцца пра народ, а ўсе астатнія — злыдні. На тым “свабоднае цэнаўтварэнне” і скончылася.

— Сёння так званы новы эксперымент збіраюцца праводзіць пакуль толькі ў Магілёўскай вобласці. Як вы гэта сабе ўяўляеце?




— Ёсць рэчы, якія каментаваць проста немагчыма. Я, напрыклад, не разумею — пры чым тут Магілёўская вобласць? Трэба адкрыць усе рынкі. Упэўнены, што ад гэтага выйграюць пакупнікі, бо зараз не ўся беларуская малочная прадукцыя якасная. У нас ёсць цудоўныя фермы (у тым ліку, і ў Магілёўскай вобласці), але патрэбна свабодная канкурэнцыя. Бо адной лыжкай дзёгцю можна сапсаваць усю бочку з мёдам.

***Па матэрыялах “Радыё “Рацыя”***

# БЫЛЫ НАМЕСНІК ПАЛКОЎНІКА ЮРЫЯ СІМАНАВА ПАТРАБУЕ СПРАВЯДЛІВАСЦІ

***Міліцыянт, які змяніў палкоўніка Юрыя Сіманава на пасадзе начальніка Клімавіцкага РАУС і быў асуджаны на 11 гадоў турмы, заяўляе пра фальсіфікацыю крымінальнай справы ў адносінах да яго.***

З такой заявай былы начальнік Клімавіцкага РАУС Аляксандр Арцёменка звярнуўся да незалежных журналістаў.

Ён асуджаны на 11 гадоў пазбаўлення волі за атрыманне хабару ў асабліва буйным памеры. Арцёменка заяўляе, што яго крымінальная справа была сфальсіфікаваная, а цяпер адпаведныя інстанцыі ігнаруюць усе яго скаргі, перадае БелаПАН.

Нагадаем, у сакавіку 2013 года Барысаўскі міжгарнізонны ваенны суд прысудзіў Арцёменку да 11 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Яшчэ двух міліцыянтаў, якія праходзілі па яго справе, — да васьмі і дзевяці гадоў пазбаўлення волі. Суд, які праходзіў за зачыненымі дзвярыма, прыйшоў да высновы, што іх віна ў атрыманні хабару ў 500 тысяч долараў ад расійскага прадпрымальніка цалкам даказаная.

Асуджаны сцвярджае, што можа пацвердзіць сваю рацыю з дапамогай некалькіх незалежных крыніц і дакументальна. Але суд нібыта не прымаў яго паказанні да ведама. Арцёменка сцвярджае, што ніякіх грошай ад грамадзяніна Расіі ён не атрымліваў, яго проста “падставілі”.

Былы намеснік палкоўніка Сіманава кажа, што другі год спрабуе дамагчыся праверкі сваіх паказанняў і довадаў, аднак яму адказваюць, што ўсё ў дачыненні да яго была зроблена законна.

Аляксандр Арцёменка, быў прызначаны на сваю пасаду пасля таго, як два з паловай гады адпрацаваў першым намеснікам начальніка міліцыі Клімавіцкага раёна Юрыя Сіманава, які зараз узначальвае Бялыніцкі РАУС.

Рэдакцыя “Паходні” будзе ўважліва сачыць за развіццём гэтай гучнай справы і інфармаваць аб ёй чытачоў газеты.

***Багдан Іваноў***

# КАЛГАСНЫ МУЗЭЙ УШАНАВАЎ АХВЯРАЎ СТАЛІНІЗМУ

***Экспазыцыю пра ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў стварылі ў музэі бялыніцкага СВК «Радзіма», што на Магілёўшчыне. У экспазыцыі пералічаныя вяскоўцы, якія прайшлі праз сталінскі тэрор.***

У музэйнай экспазыцыі пададзеныя імёны 62 вяскоўцаў, якія зьведалі на сабе гвалт сталінізму. Тут жа вокладкі асабістых спраў, заведзеных НКВД на некаторых з рэпрэсаваных, а таксама даведкі пра рэабілітацыю ды фотаздымкі з Гулагу. Экспазыцыя пра ахвяраў палітычных рэпрэсіяў створаная сярод стэндаў, прысьвечаных станаўленьню савецкай улады ды калектывізацыі ў тых вёсках, якія цяпер ўтвараюць Вішоўскі сельсавет.

Адна са стваральніц музэю Сьвятлана Атрошчанка кажа, што экспазыцыя пра калектывізацыю адлюстроўвае гісторыю таго пэрыяду, якая, як яна адзначае, поўніцца не аднымі заклікамі. «Мы імкнуліся ўсебакова адлюстраваць падзеі таго часу, — кажа яна.

«Тады ж было як — тут жа заклік „Ідзі таварыш да нас у калгас“, а ў калгас прыйшоў, недзе ня тое слова сказаў і ў 1937 годзе за заклікі супраць савецкай улады рэпрэсавалі... Вы ж паглядзіце: ўсе асабістыя справы — гэта артыкул, як правіла, 72-гі. А гэта — антысавецкая агітацыя. Гэта гісторыя страшная. Тады ж вывозілі сем’ямі».

Ля стэнду пра рэпрэсіі наведнікі спыняюцца і доўга ўглядаюцца ў сьпіс рэпрэсаваных, кажа Сьвятлана Атрошчанка. Яна адзначае, што не багата тутэйшых ведае пра часы калектывізацыі і яе ахвяраў:

«Людзі прыходзяць і шукаюць знаёмыя прозьвішчы па вёсках. Ды й ужо прыходзяць ня ўнукі, а праўнікі. Тут ёсьць некалькі чалавек, якія ведаюць сваю гісторыю, могуць расказаць пра прадзедаў — хто памятае з размоваў, ад сваіх бацькоў пра часы калектывізацыі».У той жа музэйнай залі са стэндамі пра станаўленьне савецкай улады ў кутку — зьвесткі пра мясцовую праваслаўную Петрапаўлаўскую царкву. Яе разбурылі ў часы разгулу сталінскіх рэпрэсіяў. Тое, што засталося ад сьвятыні, цяпер можна ўбачыць на ўскрайку Вішова.




У разбураным храме — крыж і абразы. Да царквы вядзе сьцяжка ў разрослай траве. Некаторыя зь вяскоўцаў кажуць, што ходзяць на імшу ў гэтую разбураную царкву.

Пабыўшы ў музэі ды пабачыўшы тое, што засталося ад сьвятыні, як напамін пра сталіншчыну, гутару з жыхарамі Вішова пра іх стаўленьне да рэпрэсіяў таго часу. Дарослыя вяскоўцы пра часы калектывізацыі і рэпрэсіі чулі ад сваіх бацькоў. Пераняты ля будынку школы, у якім музэй, спадар пэнсійнага веку пра часы панаваньня гвалту ў Савецкім саюзе згадвае:

«Мая бабуля была кулачка, і каб не было ў шэрагу рэпрэсаваных, дык ёй давялося адмовіцца ад хутара і аддаць усё ў калгас. Час тады быў такі, — тлумачыць ён. — Тады была дыктатура, а безь яе ня можа быць парадку». На заўвагу, што дыктатура забрала мільёны жыцьцяў суразмоўнік рэагуе: «Але ж і мільёны захавала. І краіну захавала. Імпэрыю захавала. Але тыя, хто пацярпеў ад рэпрэсіяў, зусім іншага меркаваньня».

Яшчэ адзін суразмоўнік адразу заявіў:

«Калі так цяпер разабрацца, то я кулак. І ў тыя часы таксама быў кулак, які працаваў суткамі, а потым яго рэпрэсавалі. Маіх дзядоў раскулачылі. Адправілі ў Сыбір і адтуль яны не вярнуліся. Калі б не раскулачвалі людзей тады, то мы б жылі нашмат лепей. Вось тут скрозь былі адны хутары. А цяпер прайдзі ўздоўж рэчкі — скрозь расьце бур’ян. А там жа людзі ўсё ўраблялі. Тады суткамі працавалі».

Тыя часы забываць нельга, пераканаdebаны жыхар Вішова, дом якога за сто мэтраў ад разбуранай Петрапаўлаўскай царквы. Гэта нам навука, заяўляе ён:

«Тады трэба было, каб людзі працавалі задарма. Была разнарадка, што вось у такой вёсцы трэба забраць дваццаць чалавек і ўсё. І ніхто ні на што не зважаў».

На думку суразмоўцы, гвалту сталіншчыны ў Беларусі паўтарыцца ня можа:

“Усе ўжо навучаныя тым лёсам«,— перакананы ён.

Вясковая моладзь пытаньне пра часы сталінскага тэрору ўспрымала як правакацыю. Некаторыя прызнаваліся, што ня ведаюць пра іх нічога. Нешта, казалі маладыя жыхары Вішова, памятаем са школьнай праграмы, але згадаць што, адмаўляліся. На заўвагу: ці былі ў музэі і ці бачылі там экспазыцыю прысьвечаную сталінскаму тэрору — рэагавалі каротка: «Сходзім, паглядзім».

Музэй адкрылі крыху больш за тыдзень таму. Паводле Сьвятланы Атрошчанкі, ён адразу стаў папулярным у вяскоўцаў.

*(Заканчэнне на стар. 7)*

# ВІНШАВАННІ З ДНЁМ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ 27 ЛІПЕНЯ ДАСЛАЛІ ПАЛІТВЯЗНЯМ З БЯЛЫНІЦКАГА РАЁНА

***Напрыканцы ліпеня грамадскія актывісты Бялыніцкага раёна напісалі і даслалі віншавальныя паштоўкі з Днём незалежнасці 27 ліпеня ўсім беларускім палітвязням.***

У паштоўках актывісты жадалі палітвязням здароўя, мужнасці і цярпення, а таксама выказвалі спадзяванне на тое, што Беларусь ужо ў хуткім часе стане сапраўды незалежнай квітнеючай краінай з дэмакратычнымі традыцыямі.

Удзел у напісанні паштовак прынялі сябры Партыі БНФ і кампаніі "Гавары праўду".

Неабходна адзначыць, што большасць беларускіх палітвязняў – пяць чалавек – адбываюць сваё пакаранне менавіта на тэрыторыі Магілёўскай вобласці. Бялыніцкія актывісты імкнуцца аказваць палітвязням пастаянную падтрымку, дасылаючы ім лісты і паштоўкі з пажаданнямі дабра і надзеі на лепшую будучыню.

З 1991-га па 1996 год галоўнае нацыянальнае свята нашай краіны — Дзень Незалежнасці — адзначалася менавіта 27 ліпеня. 27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце. Яна абвясціла поўны дзяржаўны суверэнітэт БССР як вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі, праваздольнасць яе законаў і незалежнасць знешніх адносін.

25 жніўня 1991 года Дэкларацыя атрымала статус канстытуцыйнага закона, на падставе якога былі ўнесеныя змены і дапаўненні ў Канстытуцыю БССР 1978 года.

19 верасня 1991 г. Вярхоўны Савет БССР прыняў закон аб назве рэспублікі, у адпаведнасці з якім яна стала называцца Рэспублікай Беларусь. Была ўведзена новая дзяржаўная сімволіка — бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня".

8 снежня 1991 года ў беларускай урадавай рэзідэнцыі ў Віскулях Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці кіраўнікі Беларусі, Расіі і Украіны дэнансавалі дагавор 1922 г. аб утварэнні СССР.

З 1991 па 1996 гады галоўнае нацыянальнае свята — Дзень Незалежнасці — адзначалася 27 ліпеня і было прымеркавана да даты прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце.



Пасля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі падчас рэспубліканскага рэферэндуму 1996 года было прынята рашэнне аб святкаванні Дня Незалежнасці 3 ліпеня, у дзень вызвалення Мінска ад фашысцкіх захопнікаў.

*Барыс Вырвіч*

## КАЛГАСНЫ МУЗЭЙ УШАНАВАЎ АХВЯРАЎ СТАЛІНІЗМУ

*(Заканч. Пачатак на стар. 6)*

Яго наведваюць ня толькі тыя, хто застаўся жыць у вёсках, але і іхныя родзічы, якія выехалі ў іншыя мясьціны. У музэі разьлічваюць, што гэтыя экспазыцыі будуць папаўняцца і дакумэнтамі, перададзенымі вяскоўцамі. Гэты працэс, кажа Сьвятлана Атрошчанка, ужо пачаўся. Багата фотаздымкаў пакуль застаюцца без тлумачальных надпісаў, бо няма зьвестак пра людзей, якія на іх.

*Радыё "Свабода"*

## Численность населения превышает 100 тыс. человек в 14 городах Беларуси

В 14 городах Беларуси численность населения превышает 100 тыс. человек, сообщили в Национальном статистическом комитете.

В крупных городах с численностью населения 100 тыс. и более сосредоточено около 70% всех горожан. Это столица республики Минск, все областные центры, а также Бобруйск, Барановичи, Борисов, Пинск, Орша, Мозырь, Солигорск, Новополоцк.

На начало 2014 года в Минске насчитывалось 1 млн 922 тыс. жителей, в Гомеле — 512 тыс., в Могилеве — 371 тыс., в Витебске — 363 тыс., в Гродно — 357 тыс., в Бресте — 331 тыс., в Бобруйске — 218 тыс., в Барановичах — 177 тыс., в Борисове — 145 тыс., в Пинске — 136 тыс., в Орше — 117 тыс., в Мозыре — 112 тыс., в Солигорске — 105 тыс., в Новополоцке — 102 тыс. человек.

## Новый начальник РОНО

17 июля на должность начальника отдела образования, спорта и туризма Белыничского райисполкома назначен Андрей Александрович Ганчук.

Андрей Александрович в 2002 году окончил УО «Могилевский государственный университет имени А.А. Кулешова», работал директором ГУО «Олешковичская базовая школа» и ГУО «Мощаницкая средняя школа», начальником отдела по делам молодежи райисполокома, затем - в должности заместителя начальника отдела образования, спорта и туризма райисполкома.

По имеющейся информации, бывший начальник отдела образования Лидия Щетинко вынуждена была уйти со своей должности из-за того, что по указанию председателя райисполкома Николая Кодатенко с ней не перезаключили контракт на новый срок.

Кстати, именно Лидия Александровна возглавляет районную организацию РОО "Белая Русь".

# АБЛАСНЫ СУД АДМОВІЎ У КАМПЕНСАЦЫІ СУДОВЫХ ВЫДАТКАЎ

***Магілёўскі абласны суд не задаволіў скаргу Валерыя Вусіка аб кампенсацыі судовых выдаткаў.***

16 верасня 2013 года суддзя суда Бялыніцкага раёна Аксана Загорская пастанавіла спыніць адміністрацыйную справу ў адносінах Валерыя Вусіка згодна п.2 ч.1 арт.9.6 ПВКаАП – за адсутнасцю ў яго дзеяннях адміністрацыйнага правапарушэння, адхіліўшы складзеныя міліцэйскія пратаколы. У судзе былі разгледжаны два пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні, складзеныя яшчэ ў лютым 2013 года ўчастковым інспектарам Сяргеем Карыткіным, быццам бы за паклёп з боку Валерыя Вусіка на былога старшыню СВК "Лебедзянка" Пятра Бялова ў змешчаным у газеце "Магілёўскі Выбар" і на інтэрнэт-сайце Zapraudu.info артыкуле "Што змянілася за апошнія некалькі гадоў у СВК "Лебедзянка", і за парушэнне артыкула 17 Закона аб СМІ пры распаўсюдзе газеты "Магілёўскі Выбар".




Па выніках разгляду гэтай адміністрацыйнай справы Валерый Вусік і падаў пазоў аб кампенсацыі панесеных ім судовых выдаткаў - аплаты дзяржаўнай пошліны і аплаты паслугаў адваката. Раней бялыніцкі раённы суд і судовая калегія абласнога суда адхілілі ягоныя скаргі. Наглядная скарга старшыні абласнога суда Ігару Прошку таксама не была задаволеная.

Старшыня аблсуда адзначае, што суды, разглядаючы скаргі, "абгрунтавана указалі на адсутнасць у заканадаўстве прававых нормаў, якія забяспечваюць прававое рэгуляванне грамадскіх стасункаў, звязаных з размеркаваннем працэсуальных і судовых выдаткаў у адміністрацыйным працэсе". Больш таго - "з незаконнага прыцягнення грамадзяніна да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу не выцякае ўзнікненне ў яго права на кампенсацыю шкоды, за выключэннем выпадкаў, калі віна суддзі, што здзяйсняў правасуддзе, была ўстаноўлена прыгаворам суда".

Падсумуем: Валерый Вусік быў незаконна прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці судом на падставе пратаколаў, складзеных супрацоўнікам міліцыі. Каб давесці сваю невінаватасць, Вусік быў вымушаны звярнуцца ў суд са скаргамі, за падачу якіх сплаціў устаноўленыя дзяржавай пошліны. Таксама ён быў вымушаны звяртацца па юрыдычную дапамогу да адваката, паслугі якога таксама былі ім аплачаныя. Але выдаткі, панесеныя Вусікам для таго, каб давесці сваю невінаватасць, цалкам ляглі на яго самога. Гэта і ёсць правасуддзе?

"Гніль завялася ў дацкім каралеўстве", лічаць магілёўскія праваабаронцы.

***mahilyowspring.org***

## "Пивоварни Хайнекен" стали крупнейшим налогоплательщиком Могилевщины в 1 полугодии

**На долю крупнейшего производителя пива в Беларуси, мощности которого расположены в Бобруйске, пришлось 5,4% в общих поступлениях в консолидированный бюджет области.**

В десятку лидеров по формированию бюджета, как сообщает ИМНС Беларуси по Могилевской области, входят также РУП "Могилевэнерго" (4,4%), ОАО "Климовичский ликеро-водочный завод" (3,9%), ОАО "Могилевхимволокно" (2,0%), ОАО "Белшина" (1,4%), РУП "Могилевоблгаз" (1,3%), РДУП "Белоруснефть-Могилевоблнефтепродукт" (1,1%), ОАО "Могилевлифтмаш" (1,0%), Могилевский филиал РУП "Белтелеком" (1,0%), Филиал ООО "Евроторг" в г.Могилеве (0,7%).

Перечисленными плательщиками за 1-е полугодие 2014 года уплачено в бюджет 942,2 млрд. рублей, что составляет 79,5% поступлений от крупных организаций и 28,1% общих поступлений в консолидированный бюджет области.

## На заводе нет порядка

**Прокуратура Могилевской области изучила технологический и санитарный порядок на перерабатывающих предприятиях АПК.**

В ходе проведенного прокуратурой Белыничского района в марте 2014 года мониторинга ОАО "Белыничский протеиновый завод", перерабатывающего павших животных, установлены нарушения требований закона об обращении с отходами. Они выразились в организации на территории завода несанкционированной свалки строительных материалов, механизмов, отработанных шин.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 26.07. 2014 г. у 09-00.